**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№47(711) 21 лістапада 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by




Апошні асенні клёў.
Фота Ул. Скрабатуна.

## Нацбанк возьме пад кантроль грашовыя пераводы насельніцтва

**Беларускія банкі пачнуць інфармаваць Нацбанк аб грашовых пераводах насельніцтва ўжо ў першай палове 2014 года.**

Пра гэта паведаміў сёння журналістам намеснік старшыні праўлення Нацыянальнага банка Сяргей Дубкоў на X міжнародным форуме па банкаўскіх інфармацыйных тэхналогіях «Банк».

***БелТА.***

## Браслаўскі раён

# А ці хопіць сыравіны?

■ Чэслаў Якубовіч

**З удзелам кіраўніка Віцебскай вобласці А. Косінца днямі ў Браславе правялі ўрачыстую цырымонію запуску ў эксплуатацыю пасля рэканструкцыі філіяла Глыбоцкага МКК.**

Як паведаміў у сваёй прамове старшыня аблвыканкама, на стварэнне тут сучаснай лініі па выпуску да 12 тон у суткі цвёрдых і мяккіх сыроў пайшло амаль 230 млрд. рублёў. На новым сырзаводзе атрымалі працу сто чалавек, тут будуць імкнуцца да глыбокай перапрацоўкі сыравіны і выпускаць слівачнатварожную масу. Услед за браслаўчанамі неўзабаве запрацуе яшчэ больш магутны сырзавод у суседніх Паставах. У гэтай галіне дзейнічае і Верхнядзвінскі масласырзавод, на якім з'явілася і сумеснае з расіянамі прадпрыемства па выпуску элітных сыроў. І хоць глава вобласці супакоіў прысутных на цырымоніі пуска завода ў Браславе, што трое такіх малочных гігантаў – не перабор, на сыры ёсць попыт, але для завадчан сур'ёзнае пытанне рытмічных паставак малака. Толькі для браслаўчан сыравіны неабходна мець не менш 120 тон кожныя суткі. У самім жа азёрным краі, за выключэннем 2-3 гаспадарак, з малочнай жывёлагадоўляй – проста бяда. За 3 кварталы па раёне яго вытворчасць на карову знізілася на 481 кг, па прадукцыйнасці Браслаўшчына займае 115-е месца з 118 раёнаў Беларусі. Малако завозіць з іншых раёнаў не выпадае, яго ўсюды дояць мала. Ды і Пастаўскі раён хацеў бы, каб яму пастаўлялі сыравіну хоць бы некалькі гаспадарак суседзяў, бо новы сырзавод – настолькі магутны, а яшчэ і малочны брэнд "Паставы-гарадок" штодзень патрабуе сотні тон малака. Сёлета свае пазіцыі па яго вытворчасці здалі палова раёнаў краіны, у тым ліку на Віцебшчыне – 20.

## Пастаўскі раён

# Пакрыўдзілі рыбаводаў

■ Станіслаў Раманчук

**Апошнім часам у лік лепшых па Беларусі рэгулярна ўваходзіць калектыў рыбгаса "Навінкі", што ў Пастаўскім раёне, хоць па плошчы "блакітнай нівы" ён займае толькі 10-е месца сярод айчынных рыбаводчых гаспадарак.**

З прыходам сюды новага маладога і энергічнага дырэктара Аляксандра Ліхаманава стала актыўна выконвацца Дзяржаўная праграма рыбалоўства, а па прадукцыйнасці працы пастаўчане ў 2 разы апярэджваюць рэспубліканскі паказчык. Тут стварылі сучасны рыбапітомнік і з сажалак плошчай тысяча гектараў сталі атрымоўваць у 6 разоў болей рыбы, чым у пачатку стагоддзя. Пасадачны матэрыял прадаюць таксама і іншым рыбгасам, бо там выжывае да 90 % малькоў, у тры разы болей, чым у жывой прыродзе. Сёлета таксама паспяхова на працягу трох асенніх месяцаў закончылі сезон вылаву вырашчанай рыбы, як і планавалі, аб'ёмам 1150 тон. Не сталі ў "Навінках" падымаць цану на свой фірменны карп і таўсталобікаў, захавалі цэннікі каля 22 тысяч за кілаграм свежай рыбы і не прайгралі. Яе сёлета найбольш прадалі ў магазінах Віцебшчыны, адкрылі для сябе і рынак Вілейскага раёна Міншчыны. Акрамя гэтага на "зімавальныя" сажалкі пераправілі 125 тон маленькай рыбы, якая да новай восені набудзе таварную вагу. Пры добрых вытворчых паказчыках на фінішы года, праўда, настрой у рыбаводаў гаспадаркі не зусім добры. Рыбгас пачаў раней працу па стварэнні свайго рыбаперапрацоўчага цэха ў райцэнтры. Аднак работы прыйшлося спыніць з-за адсутнасці патрэбнага фінансавання. З прычыны пэўных эканамічных цяжкасцей атрымаць банкаўскія рэсурсы стала цяжка, бо львіная доля грошай ідзе на падтрымку сельскай гаспадаркі, а там справы незайздросныя.

## Полацкі раён

# Апошні аргумент – нож

■ Кастусь Александровіч

**Пра беларусаў любілі гаварыць як пра спакойных, талерантных людзей, ледзь не самых лепшых сярод славян.** Аднак варта толькі многім суайчыннікам прыкласціся да чаркі, як у момант яны страчваюць чалавечае аблічча і становяцца занадта агрэсіўнымі. Вось і ў гарпасёлку Ветрына Полацкага раёна Следчы камітэт вымушаны быў распачаць нядаўна крымінальную справу. Там двое мужчын аднаго 44-гадовага ўзросту былі падобныя тым, што не мелі пастаяннай працы. Адзін з іх меў расійскае грамадзянства і від на жыхарства ў нашай краіне. А не падзялілі мужыкі адну жанчыну. Дакладней, беларус з вёскі Шпакоўшчына моцна прырэўнаваў рускага брата з Саюзнай нам дзяржавы да сваёй каханкі. Ды так моцна, што вырашыў разабрацца з ім на ягонай кватэры, калі расіянін ужо добра захмялеў. Беларус больш трывала трымаўся на нагах і таму адолеў суперніка, нанёс "крыўдзіцелю" свайму некалькі колатых і рэзаных ран грудной клеткі і жывата. На шчасце, пацярпелы застаўся жыць, але быў змешчаны ў бальніцу, а вось новаяўленага Атэла з нажом чакае следства, суд і потым зона. Аналагічныя разборкі толькі ўжо ў Талачынскім раёне закончыліся трагічна. Там паблізу вёскі Жакі на абочыне дарогі знайшлі труп 53-гадовага дачніка-мінчаніна. Як было ўстаноўлена па гарачых слядах, непрацуючага жыхара беларускай сталіцы забіў тапаром падчас спрэчкі на падпітку больш маладзейшы 39-гадовы мясцовы лайдак. Дарэчы, яны былі знаёмыя паміж сабой і нават 15 гадоў назад нешта не падзялілі. Тады гараджанін "пакрыўдзіў" калгасніка, які апусціўся да ўзроўню бадзялага ката без працы, але пра сваю крыўду не забыўся і так вось адпомсціў.

# Аб самым надзённым

## У БЕЛАРУСІ ПАЧАЛІ БУДАЎНІЦТВА АЭС ТОЛЬКІ ПРАЗ 5 ГАДОЎ З МОМАНТУ ПРЫНЯЦЦЯ ТАКОГА ГІСТАРЫЧНАГА РАШЭННЯ



■ Аляксандр Цішкевіч

**Як паведаміў кіраўнік дырэкцыі будаўніцтва атамнай станцыі М. Філімонаў, пасля атрымання адпаведнага дазволу Дзяржбуднагляду 6 лістапада ў адпаведнасці з зацверджанай праектнай дакументацыяй пачалося ўзвядзенне гэтага маштабнага аб'екта за расійскія крэдыты.**

У гэтым месяцы беларусы, ужо адзіныя на постсавецкай прасторы паранейшаму адсвяткавалі Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі. На самой справе значэнне тых далёкіх падзей у Петраградзе для цяперашніх пакаленняў ужо перабольшваецца, бо, да прыкладу, у Віцебску да помніка бальшавіцкаму лідару да мітынг з гэтай нагоды сабралася каля сарака ў асноўным пасівелых ветэранаў, а ў большасці віцьблян з'явіўся толькі дадатковы выхадны дзень. Аднак засталася савецкая традыцыя да 7 лістапада адкрываць нейкія аб'екты, паведамляць аб працоўных падарунках. Вось і на пляцоўцы паблізу Астраўца пачалі заліўку бетона фундаментаў аб'ектаў першага энергаблока будучай Беларускай АЭС.

Як паведаміў кіраўнік дырэкцыі будаўніцтва атамнай станцыі М. Філімонаў, пасля атрымання адпаведнага дазволу Дзяржбуднагляду 6 лістапада ў адпаведнасці з зацверджанай праектнай дакументацыяй пачалося ўзвядзенне гэтага маштабнага аб'екта за расійскія крэдыты. Сама АЭС будзе каштаваць каля 10 млрд. долараў, а ўжо сёлета восенню ў Беларусі зафіксавалі рэкордны абвал золатавалютных рэзерваў. Аднак, як кажуць, працэс прайшоў, яго спыніць ужо не ўдасца, хоць Літва абвінаваціла нас у парушэнні міжнародных канвенцый па атамнай энергетыцы.

Праз два дні на пляцоўцы паблізу літоўскай граніцы адбыўся мітынг, прысвечаны пачатку будаўніцтва першага энергаблока. На яго спачатку чакалі прыбыцця нават вышэйшых службовых асоб дзяржавы. Але беларускі лідар замест заліўкі бетону паехаў, як вядома, у Барысаў, дзе, як і год назад, пахадзіў па грязі па задворках "Барысаўдрэва", а потым устроіў паказальны разнос падначаленым з вельмі жорсткімі кадравымі рашэннямі. Гучалі там нежартоўныя пагрозы: "звольніць", "распачаць крымінальную справу" і нават "тузане за межы Барысава – пасадзіць… у камеру яго за тое, што не сочыць за парадкам".

А вось у Астраўцы ўсё было ціха, хоць і сціпла, там адслужылі малебен праваслаўны і каталіцкі святары, прамовілі некалькі кіраўнікоў мясцовага ўзроўню і атамную станцыю на беларускай зямлі карпарацыя "Расатам" пачала ўзводзіць.Тэрміны пуску, дарэчы, першага энергаблока ўжо перанеслі з планаў спачатку ў канцы 2016 года на 2 гады пазней. Расійскі партнёр паведаміў, што па просьбе беларусаў працуе над скарачэннем тэрмінаў узвядзення АЭС да 4 гадоў.

З апошнім тэрмінам трэба быць асцярожней, усё ж – гэта не радавы буйны аб'ект і спяшацца тут не трэба. З іншага боку "Расатаму" дагэтуль ні разу не ўдалося і за 5 гадоў пабудаваць па розных прычынах ніводнай станцыі як на прасторах расійскіх, так і за граніцай па заключаных кантрактах. Будзем і мы спадзявацца, што расійскі Мінфін стане па графіку выдзяляць неабходныя сродкі на гэту супербудоўлю і справяцца з заказамі ў тэрмін расійскія заводы – пастаўшчыкі неабходнага для станцыі абсталявання і саміх рэактараў.

А вось што яшчэ больш узрасце наша залежнасць ад усходняй суседкі – гэта відавочна. Зрэшты, першы бетон у Астраўцы абяцалі заліць летам, а выйшла, што толькі напярэдадні зімы. Балюча ўспрынялі сам факт узнікнення новай АЭС паблізу Вільнюса нашы суседзі-літоўцы, якія яшчэ могуць нашкодзіць нам з узгадненнем гэтай праблемы на міжнародным узроўні. Аднак і для самой Літвы актуальным пытаннем застаецца ўзвядзенне сваёй АЭС з дапамогай стратэгічнага інвестара з Японіі ўзамен закрытай у Вісагінісе. Вось толькі прадаваць у ЕС выробленую ў Астраўцы электрычнасць мы, напэўна, не зможам.

Канешне, літоўцы імкнуцца зніжыць сваю залежнасць і ад крайне дарагіх расійскіх паставак нафты і газу. Мы ж прывязаны да Расіі цяпер, як ніхто іншы ў свеце, а аднабокая арыентацыя на расійскі рынак ужо прывяла вытворцаў Беларусі, найбольш у машынабудаванні, да крызісу і рэзкага скарачэння паставак туды айчынных трактараў, аўтамабіляў, сельскагаспадарчай тэхнікі. Патрабуецца шмат грошай і часу, каб палепшыць тэхніка-эканамічныя паказчыкі прадукцыі МАЗа, МТЗ, "Гомсельмаша", БелАЗА, Лідсельмаша, а вось гэтага нашы вытворцы ўжо не маюць.

І толькі для жыхароў суседніх з Астраўцом раёнаў узвядзенне АЭС у радасць, бо з'явіліся дадатковыя высокааплатныя рабочыя месцы, магчымасць там хутчэй абзавесціся жыллём. Унутры ж Беларусі на фінішы няпростага года хапае цяжкасцей, не выконваюцца задачы па разгрузцы складоў, як і па мадэрнізацыі дрэваапрацоўкі. У трывозе і індывідуальныя прадпрымальнікі, бо з 1 студзеня ім забароняць гандляваць на рынках без суправаджальных дакументаў. Усё болей перад країнай бачыцца выхад з эканамічных цяжкасцей у правядзенні структурных рэформ, але ж яны балючыя для насельніцтва.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 21.11.13 | | | | Пятніца 22.11.13 | | | | Субота 23.11.13 | | | | Нядзеля 24.11.13 | | | | Пнд.25.11.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +7 | +7 | +8 | +7 | +8 | +8 | +8 | +6 | +7 | +7 | +8 | +6 | +7 | +5 | +3 | -1 | -2 | -2 | -1 |
| Ціск | 742 | 743 | 744 | 745 | 746 | 746 | 747 | 747 | 748 | 748 | 747 | 746 | 746 | 748 | 750 | 752 | 751 | 748 | 748 |
| Вільготнасць | 96 | 97 | 90 | 97 | 98 | 98 | 91 | 98 | 98 | 99 | 93 | 99 | 98 | 92 | 65 | 71 | 83 | 79 | 65 |
| Вецер м/сек | 5 Пд | 5 Пд | 3 Пд | 5 Пд-У | 4 Пд-У | 6 Пд-У | 4 Пд-У | 5 Пд-У | 3 Пд-У | 4 Пд-У | 3 Пд-У | 3 Пд-У | 3 Пн-З | 3 Пн-З | 6 Пн | 1 Пн | 2 Пд-З | 6 Пд-З | 6 Пн-З |

## Дзень за днём

**У пачатку месяца інфляцыя склала ўжо 12 % і дасягнула гадавога прагнозу. Пачынаючы з мая, золатавалютныя рэзервы Беларусі зменшыліся на 1,5 млрд. долараў, краіна адчувае недахоп валюты ад знешняга гандлю. Урад РБ з Нацбанкам вырашылі да канца года пракрэдытаваць калгасы яшчэ амаль на 1 млрд. USD. Ужо 62 % маладых беларусаў, па дадзеных сацдаследванняў, гатовы выехаць працаваць за мяжу. У Мінску прайшлі татальныя праверкі парадку на заводах і фабрыках сталіцы. З лютага да 5 мая 2014 года забаранілі продаж беларускіх сувеніраў да чэмпіянату свету па хакеі, іх па дагавору з IIХФ пастаўляць фірма са Швецыі.**

# Важнейшыя навіны свету

**Сірыя.** Міжнародныя інспектары пацвердзілі факт знішчэння Дамаскам усіх заводаў па вытворчасці атрутных газаў, аднак грамадзянская вайна ў краіне працягваецца.

**ЗША.** Дэфіцыт дзяржаўнага бюджэту краіны апусціўся да самага нізкага ўзроўню за апошнія 5 гадоў, аб'ём дзяржаўных даходаў вырас за год на 13,2 % і дасягнуў 2,7 трыльёна долараў.

**Украіна.** Прэзідэнт В. Януковіч падпісаў змены ў Падатковы кодэкс, якія могуць пазбавіць яго канкурэнта В. Клічко магчымасці ўдзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах.

**Польшча.** У рамках вялікіх ваенных вучэнняў сіл НАТО на тэрыторыі краіны прайшлі выпрабаванні балістычных ракет і тэсціраванне сістэм навейшай кібераbароны.

Таджыкістан. Дзеючы яшчэ з 1990 гадоў прэзідэнт Э. Рахмон зноў атрымаў "перамогу" на прэзідэнцкіх выбарах з 83,6 % галасоў, кандыдата ад апазіцыі не зарэгістравалі.

**Францыя.** Пражываючая ў Парыжы ўдава былога палесцінскага лідара Суха Арафат заявіла, што эксперты пацвердзілі гібель яе мужа ў выніку атручэння палоніем.

**Фінляндыя.** Кампанія Nokia з мэтай выхаду з крызісу пачала выпуск планшэтаў з 10-дзюймовым экранам, яны могуць працаваць у сотавых сетках і з бесправадным Інтэрнетам

**Японія.** У пацярпелым ад катастрофы на АЭС рэгіёне Фукусіма ў 20 км ад узбярэжжа запусцілі ў эксплуатацыю турбіны новага сучаснага ветрапарку магутнасцю 1 гігават.

**Украіна.** Харчоваэерневая карпарацыя краіны заказала на Мінскім аўтазаводзе 1500 новых мадэлей зерневозаў з прычэпамі з поўнай масай грузу больш 16 тон замест КамАЗа.

**Філіпіны.** На цэнтральныя раёны краіны абрушыўся самы магутны ў гісторыі ўраган "Хаян", вышыня хваль на моры паднялася на 6 метраў, 1 млн. людзей эвакуіравалі.

**КНДР.** У сямі гарадах паўгалоднай краіны публічна расстралялі 80 чалавек за амаральныя паводзіны, прагляд тэлепраграм суседняй Карэі з парнаграфіяй, за гульні на грошы.

**Венесуэла.** Пераможцай конкурсу "Міс Сусвету", які прайшоў у Маскве, стала 25-гадовая тэлевядучая Габрыэль Іслер, венесуэлкі 7 разоў прызнаваліся найпрыгажэйшымі ў свеце.

**ЗША.** Па прынцыпе старадаўніх паясоў вернасці ў Нью-Ёрку распрацавалі бялізну, якая надзейна абароне жанчыну ад гвалтаўнікоў, яе нельга разарваць, разрэзаць нажніцамі.

**Фінляндыя.** Чэмпіянат свету-2014 па хакеі, як заявіў глава МЗС краіны Эркі Туаміоя, нельга праводзіць у Беларусі, яго яшчэ можна перанесці ў іншую дзяржаву.

**Расія.** Банк РФ у колькасці 20 млн. штук выпусціў у абарачэнне памятныя 100-рублёвыя купюры, прысвечаныя прадстаячай зімовай Алімпіядзе і Параалімпійскім гульням у Сочы.

# Кошт цукру ў Беларусі можа знізіцца




■ БелТА

**Дзяржорганы Беларусі расчараваныя вынікамі расследавання Еўразійскай эканамічнай камісіі, па якім цана на беларускі цукар у нашай краіне апынулася вышэй, чым у Расіі.**

Спецыялісты высвятляць, на якім этапе кошт цукру ў Беларусі была завышаная. Па дадзеных Еўразійскай эканамічнай камісіі, 1 кг цукру беларускай вытворчасці каштуе ў Смаленску 26,15, а ў Гомелі - 29,4 расійскіх рублёў , перадае «Смаленскі тыдзень», што здзівіла спецыялістаў. Улічваючы хоць бы транспартныя выдаткі, такога быць не павінна. ЕЭК пры ўдзеле антыманапольнага органа Беларусі збіраецца стварыць працоўную групу, якая будзе аналізаваць вынікі расследавання. Спецыялісты вывучаць увесь ланцужок ад вытворчасці да розніцы, каб высветліць, на якім менавіта этапе кошт цукру ў Беларусі быў завышаны. Нагадаем, што беларускія вытворцы цукру па выніках 2013 года былі прызнаныя лепшымі ў СНД. Першае месца было аддадзена камбінатам з Гарадзеі і Слуцка, другое - Скідаля і Жабінкі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Барысаў.** Пасля раптоўнай адстаўкі главы Міншчыны 66-гадовага Б. Батуру ледзь не прызначылі ратаваць ААТ "Барысаўдрэў" на фоне пагаршэння эканамічнай сітуацыі.

**Мінск.** Беларусі, як заявіў старшыня саюза прадпрымальнікаў Г. Бадзей, неабходна адмовіцца ад неэфектыўных дзяржпраграм падтрымкі аграпрамысловага комплексу, будаўніцтва жылля з бюджэту.

**Столін.** У гарадскім пасёлку Альшаны адкрылі новы фізкультурнааздараўленчы комплекс коштам 20,6 мільярда рублёў, у вёсцы Рэмель пабудавалі дзіцячы сад, які прыняў 75 дзетак.

**Мінск.** Неадназначную рэакцыю выклікала сярод пагранічнікаў прызначэнне трэцяга па ліку камандуючага за 5 гадоў, 64-гадовага генерал-палкоўніка Леаніда Мальцава.

**Салігорск.** ААТ "Беларуськалій" удалося ў кастрычніку павялічыць свой экспарт калійных угнаенняў да 420 тысяч тон, аднак цэны адгрузкі знізіліся на 100 долараў за тону.

**Кобрын.** Датэрмінова прыйшлося скласці паўнамоцтвы 48-гадоваму мясцоваму дэпутату Палаты прадстаўнікоў Аляксандру Зазулі пасля прызначэння старшынёй раённага выканаўчага камітэта.

**Гродна.** Першым рэзідэнтам мясцовага тэхнапарка стала польская IT-кампанія Comteqra Sp. z.o.o па распрацоўцы праграмнага забеспячэння з аб'ёмам інвестыцый 10 мільёнаў долараў.

**Калінкавічы.** Мясцовая звераферма першай у Беларусі атрымала сертыфікат якасці Фінскага пушнога аўкцыёну, прадукцыю гаспадаркі цяпер можна прадаваць і ў Еўропе.

**Мінск.** Са спазненнем на 2 месяцы для студэнтаў Белдзяржуніверсітэта паблізе станцыі метро Пятроўшчына адкрыўся новы інтэрнат № 4 блочнага тыпу з асобнымі кухнямі на пакой.

**Гомель.** Больш за ўсіх парадаваліся двое ўнукаў 68-гадовага пенсіянера, калі іх дзед выйграў у "Суперлато" 1 мільярд рублёў на вырашэнне іх "кватэрнага пытання".

**Жыткавічы.** Міліцыя на дарозе ў школу затрымала п'янага 31-гадовага вадзіцеля школьнага аўтобуса, яго аштрафавалі на 4,5 мільёна рублёў і пазбавілі правоў на 3 гады.

**Салігорск.** На швейнай фабрыцы "Купалінка" ў штаце з'явіліся першыя 9 швачак з В'етнама, ім далі інтэрнат, заробкі 403 долары ў месяц, дапамаглі з цёплым адзеннем.

**Крычаў.** Бабруйскі межгарнізонны ваенны суд асудзіў на 6 гадоў міліцыянера, опера Крычаўскага РАУС за збіццё затрыманага хлопца, падсудзімы сваю віну не прызнаў.

**Мінск.** Пасля доўгай рэканструкцыі на станцыі Мінск-Пасажырскі над пуцямі вакзала адкрыўся канкорс – сучасная і вельмі ўтульная для пасажыраў зала чакання цягнікоў.

**Магілёў.** Выйшаў у свет першы нумар абласнога літаратурна-мастацкага альманаха "Брама", усе надрукаваныя ў ім творы пісьменнікаў напісаны на беларускай мове.

# Адпушчаны цэны на шэраг прадуктаў: мяса, сыры, селядзец, каву

■ БелаПАН

**Абмежаванні па ўзроўні гандлёвых надбавак зънятыя на мяса, сыры, соль, селядзец, каву і гарбату.**

**Адпаведную пастанову прыняло Міністэрства эканомікі 5 лістапада, і яна ўступіла ў сілу, пасля апублікавання на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале.**

Абмежаванні па ўзроўні гандлёвых надбавак зънятыя ў прыватнасці, на:

фарш з ялавічыны і свініны, мяса курэй і куранят-бройлераў, пельмені з ялавічыны, свініны і мяса курэй, крывяныя і ліверныя каўбасы, мясны хлеб, зельцы і паштэты, шэраг катэгорый цвёрдых, паўцвёрдых і мяккіх сыроў, соль, салёную рыбу (сямейства селядцападобных), каву і гарбату.

Гандлёвыя і аптовыя надбаўкі на гэтыя тавары будуць прымяняцца з улікам наяўнай кан'юнктуры рынку.

Цэнавае рэгуляванне захоўваецца на асноўныя групы харчовых тавараў масавага попыту, якія маюць сацыяльную накіраванасць, падкрэслена ў каментары Мінэканомікі.

Адзначаецца таксама, што гэтае рашэнне прынята Міністэрствам эканомікі ў рамках пастановы ўрада ад 25 кастрычніка №934, якое змяніла пералік тавараў і паслуг, цэны і тарыфы на якія рэгулююцца Мінэканомікі.

Згодна з пастановай Саўміна, вышэйпаказаныя тавары былі выключаныя з пераліку сацыяльна значных.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Браслаў.** Глава вобласці А. Косінец урачыста адкрыў у райцэнтры новы сырзавод коштам 240 мільярдаў рублёў, неўзабаве яшчэ адзін такі завод пачне працаваць у суседніх Паставах.

**Орша.** Генпракурор Беларусі А. Канюк паабяцаў дырэкцыі льнокамбіната з дапамогай калег з Расіі пакараць махляроў, якія ў Маскве і Цюмені абакралі яго гандлёвыя дамы.

**Віцебск.** У стаматалагічных паліклініках абласнога цэнтра ўзнік сапраўдны ажыятаж: чаргі на прыём да ўрачоў трэба чакаць нават на працягу двух з паловай месяцаў.

**Лепель.** Вядомая фірма па выпуску рабочага адзення, абутку і сродкаў індывідуальнай абароны "Стэцкевіч-Спецадзенне" адкрыла ў райцэнтры свой філіял - швейны цэх.

**Глыбокае.** У новым мікрараёне на поўначы горада справілі наваселле жыхары яшчэ адной тыпавой шматпавярховкі на 57 кватэр і пачалася закладка новага 60-кватэрнага дома.

**Паставы.** Работнікі рыбгаса "Навінкі" за тры месяцы пуціны атрымалі 1150 тон таварнай рыбы з нагульных сажалак карпа, таўсталобіка, амура, карася, шчупака і сома.

**Докшыцы.** Пасля 8 месяцаў вымушанага прастою, пакуль праводзіўся капітальны рамонт коштам 2,5 мільярда, у раённым цэнтры зноў аднавіў сваю працу яслі-сад № 3 з музычнай залай.

**Лёзна.** Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Ізраіля ў Беларусі І. Шагал прыняў удзел ва ўрачыстым адкрыцці ў раённым цэнтры бюста сусветна вядомага мастака Марка Шагала.

**Віцебск.** Пасля капітальнай рэканструкцыі адкрылі першы 9-павярховы блок-корпус абласной бальніцы і апэрацыйны блок у абласной дзіцячай бальніцы з актавай залай.

**Орша.** Мясцовы льнокамбінат пачаў масавы выпуск ручнікоў і льняных сумак з эмблемай будучага чэмпіянату свету па хакеі, шмат такіх заказаў атрымала друкарня ў Полацку.

**Полацк.** З фонда па падтрымцы культуры і мастацтва мясцоваму гісторыка-культурнаму музею-запаведніку дадаткова выдзелілі 420 мільёнаў рублёў на рэстаўрацыю і музеефікацыю.

**Лепель.** Ва ўтульным парку на беразе мясцовага возера ўрачыста адкрылі помнік Цмоку скульптара Льва Аганава, гэта міфічная істота стала турысцкім брэндам раёна.

**Глыбокае.** З-за фінансавых праблем Міжнародны фестываль хрысціянскіх фільмаў і тэлепраграм Magnificat-2013 перанеслі на пачатак студзеня, калі знойшоўся спонсар.

**Наваполацк.** На тэрыторыі вучылішча алімпійскага рэзерву ў аддаленым мікрараёне горада Баравуха здалі ў эксплуатацыю другую чаргу лыжаролернай трасы.

**Полацк.** Шматпакутны ФК "Полацк" зноў не даехаў на матч чэмпіянату Беларусі па футболе, каманда нікому не патрэбная, іграком не далі грошай нават на харчаванне.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# У Рагачове адкрыюць 4-мятровы помнік згушчонцы

**Паведамляецца, што кампазіцыя будзе выканана ва «ўнікальнай антычнай тэхніцы мазаікі з каляровага шкла». Падзея прымеркавана да 75-гадовага юбілею Рагачоўскага малочнакансервавага камбіната, дзе робіцца гэты салодкі ласунак.**

Як запэўніваюць ствральнікі манумента, у свеце гэта будзе першая скульптура, прысвечаная згушчонцы. Унікальная кампазіцыя вышынёй у 4 метры будзе дакладнай копіяй знакамітай сіне-блакітнай банкі.

*«Выразнасць ліній і тонкасць работы – менавіта такія адметныя асаблівасці работы, выкананай вядомым мастаком-манументалістам»*, – запэўнілі прадстаўнікі завода. Менавіта ў яго сцен 23 лістапада ў 12.00 і плануецца адкрыццё помніка. Зрэшты, імя стваральніка скульптуры пакуль не ўдакладняецца.

*Крыніца: http://news.tut.by/kaleidoscope/*




Ад Рэдакцыі. З нагоды ўстаноўкі помніка чытачы сайта пакінулі каментары – чыя ж згушчонка лепшая: глыбоцкая ці рагачоўская? Змяшчаем некаторыя з іх.

**latucthkova 15 ноября 2013 1 в 10:21 из Беларуси.**

Лучше – в Глубоком. Та сгущенка – самая сгущенистая сгущенка на всем постсоветском!

***

**glavtechkrep 15 ноября 2013 в 11:45 из Беларуси**

**latucthkova (15.11.2013 10:21) писал(а):**

*Лучше - в Глубоком. Та сгущенка - самая сгущенистая сгущенка на всем постсоветском!*

Совсем там не сгущенистая сгущенка! Жидкая и не такая вкусная, как рогачевская. Рогачевская сгущенка – классика!

***

**hotimsk.2010 15 ноября 2013 в 12:05**

В советское время сгущенка была таким желанным лакомством. И только после аварии на ЧАЭС у нас в сельмаге ее стали продавать без всяких ограничений. По несколько банок за раз «выдували», а еще варили ее. Да, сгущенка – вкус детства! И не важно Глубокое или Рогачев.

***

**Dedychka_Ay**

Аааах! Рогачевская и есть самая вкусная и классическая . А свою житковатую глубокскую кушайте сами, есть разница во вкусе и т.д. Родственники из России просят привезти только рогачевской, почему – да вкуснее и ВСЕ ТУТ.

***

**shturman134 15 ноября 2013 в 14:20 из Беларуси**

Не-е, ребята-сладкоежки, ну, вы и зацепили тему насчёт того, чья же сгущёнка более «сгущёнистая»! Вот из-за таких, как вы, я буду вынужден сегодня купить ДВЕ банки сгущёнки – Рогачёвскую и Глубокскую, чтобы личной дегустацией сделать свой выбор в пользу одной из них.

***

**klok99 15 ноября 2013 в 12:54 из Беларуси**

**latucthkova (15.11.2013 10:21) писал(а):**

*Лучше - в Глубоком. Та сгущенка - самая сгущенистая сгущенка на всем постсоветском!*

Вы правы – Глубокое ещё при СССР поставляло сгущёнку в Москву, а я слышал от одного шофёра, что он когда-то приезжал в Рогачёв за партией сгущёнки и был крайне удивлён,что ему загрузили сгущёнкУ с Глубокскими этикетками!!!!!!! Что на это скажите?????

***

**Принцесса Турандот 15 ноября 2013 в 16:02**

Молодцы! Их сгущенка этого заслуживает! Всей семьей любим именно рогачевскую сгущенку.Пару раз покупала глубокскую байду,так выбрасывали.Жидкая, вонючая, с поганым привкусом.

***

**nezhniy_kaktus 15 ноября 2013 в 15:29 из Беларуси**

Глубокская вкуснее.)))

***

**olesya_from_korma 15 ноября 2013 в 18:53 из Беларуси**

***latucthkova (15.11.2013 10:21) писал(а):***

*Лучше - в Глубоком. Та сгущенка - самая сгущенистая сгущенка на всем постсоветском!*

Так не вопрос, пусть и в Глубоком предприятие поставит памятник своей продукции за свой счёт, никто ведь не запрещает.

**Каментар «ВГ».** Не трэба дужа пераймацца ад адмоўных каментароў на конт якасці глыбоцкай згушчонкі на гэтым сайце. Проста, у якасці каментатараў могуць быць і ўтоеныя патрыёты Рагачова. Ад іх наўрад ці дачакаешся дадатнага каментара. А вось год таму на Першым расійскім канале ў перадачы «Кантрольная закупка», была праведзеная дэгустацыя згушчонак. Прычым узоры згушчонак былі пранумераваны і пакупнікі-дэгустатары не ведалі вытворцу. Большасці дэгустатараў спадабалася згушчонка пад пэўным нумарам, і гэтая згушчока была глыбоцкая. Яе і рэкамендавалі набываць пакупнікам вядучыя «Кантрольнай закупкі».

# Падатак на аўто будуць браць падчас тэхагляду, яго велічыня можа дасягнуць 2,5 млн

**Ва ўрадзе разлічваюць, што прыбыткі ад збірання дзяржаўнай пошліны на допуск транспартнага сродку да ўдзелу ў дарожным руху складуць 1 трлн. рублёў.**

Пра гэта паведаміў намеснік міністра фінансаў Максім Ермаловіч, выступаючы 14 лістапада на сумесным пасяджэнні некалькіх камісій Палаты прадстаўнікоў.

«Пошліна будзе брацца разам з праходжаннем тэхагляду. Калі ў наступным годзе яго пройдуць столькі ж, як і летась, то паступленні ад падатку складуць каля трыльёна рублёў», — сказаў ён.

Ермаловіч паведаміў, што сума дзяржпошліны складзе ад 1 да 25 базавых велічыняў у залежнасці ад віду, масы і ўладальніка транспартнага сродку. Зараз базавая складае 130 тыс. рублёў.

Нагадаем, 12 лістапада на сумесным пасяджэнні некалькіх парламенцкіх камісій у Палаце прадстаўнікоў было заяўлена, што ўрад прапрацоўвае пытанне аб увядзенні дзяржаўнай пошліны за выдачу дазволу на допуск транспартнага сродку да ўдзелу ў дарожным руху. Таксама падрыхтаваны праект дакумента, які прадугледжвае ўвядзенне падатку на дармаедаў.

*БелаПАН*

# Базавая велічыня вырасце да 150 тыс. рублёў у 2014-м

**Базавая велічыня ў 2014 годзе будзе павялічана да 150 тысяч рублёў.**

Пра гэта паведаміў намеснік міністра фінансаў Максім Ермаловіч, выступаючы 14 лістапада на сумесным пасяджэнні некалькіх камісій палаты прадстаўнікоў у Мінску.

Апошнім разам базавая велічыня павышалася 1 кастрычніка гэтага года – са 100 тысяч да 130 тысяч рублёў.

Базавая велічыня з'яўляецца ўніверсальным крытэрыем для разліку розных плацяжоў. Да яе прывязаны памеры сацыяльных выплат – дапамог і стыпендый, штрафы, стаўкі дзяржаўнай пошліны і арэнднай платы

*БелаПАН*

# ЕС спадзяецца пачаць дыялог з Мінскам пра палягчэнне візавага рэжыму

**Еўрасаюз разлічвае пачаць перамовы з Беларуссю пра палягчэнне візавага рэжыму, заявіў дырэктар дэпартамента па пытаннях краін Усходняй Еўропы, Паўднёвага Каўказа і Цэнтральнай Азіі генеральнага дырэктарата ЕС па вонкавых адносінах Гунар Вігand.**

«Мы спадзяемся, што неўзабаве зможам пачаць перамовы па дамове пра палягчэнне візавага рэжыму з Беларуссю», — сказаў Вігand, выступаючы 15 лістапада на Эканамічным еўрасаміце ў Брусэлі, перадае РІА Навіны.

Нагадаем, амбасадар Польшчы Лешак Шарэпка 14 лістапада на прэс-канферэнцыі ў Мінску заявіў пра гатоўнасць сваёй краіны цалкам адмяніць візы для беларусаў.

«Мы незадаволеныя ўзроўнем развіцця паміж нашымі краінамі, але мы не можам нічога зрабіць без зваротных крокаў беларускага боку», — падкрэсліў дыпламат.

Ён адзначыў, што Польшча ў ЕС выступае за максімальнае спрашчэнне візавага рэжыму з Беларуссю аж да адмены віз. «Польшча адмовілася ад збірання платы за нацыянальныя візы. Мы таксама прыхільнікі таго, каб інтэнсіфікаваць перамовы па спрашчэнні візавага рэжыму», — сказаў Шарэпка.

Разам з тым, дадаў ён, Беларусь так і не дала адказ на зробленую Еўрасаюзам амаль два гады назад прапанову пачаць перамовы па дамовах аб спрашчэнні візавага рэжыму і рэадмісіі. «Калі не будзе дружалюбных жэстаў з беларускага боку, то ў аднабаковым парадку вырашыць візавае пытанне мы не зможам», — сказаў амбасадар.

*Аляксей Арэшка, БЕЛАПАН.*

# Глыбачан пачалі прывучаць да культуры

Фота і тэкст Ул. Скрабатуна.



**На набярэжнай возера Кагальнага ўсталяваны адмысловы кантэйнер для пластыкавых бутэлек. На момант фатаграфавання (мінулая субота) ён быў запоўнены напалову.**

Магчыма, для Глыбокага гэта выглядае і нейкай навізной, але навізны тут аніякай няма. Падобныя кантэйнеры для розных відаў бытавых адыходаў – для шкла, пластыка, металу – аўтар гэтых радкоў бачыў і ў Вілейцы яшчэ тры гады таму. Там, ужо даўно, прывучылі жыхароў мікраёнаў складваць бытавыя адыходы па катэгорыям. Для кожнай катэгорыі – асобны кайтэйнер. Цяпер дайшло і да Глыбокага. Праўда, кантэйнер для пластыкавых бутэлем на набярэжнай – чамусьці адзін. А гэтага мала. Неўзабаве зіма! Дзясяткі выпівох пад выглядам рыбалкі рынуцца «астаграміцца» на возера. Зразумела, за распіццё алкагольных напояў у грамадскім месцы і засмечванне вадаёма трэба і можна караць рублём, але, магчыма, не ўсе рыбакі згубілі сумленне і сваю шкляную ці пластыкавую бутэльку, усё ж, данясуць з возера да берага і пакладуць у кантэйнер на набярэжнай.

# У Беларусі ў бліжэйшы час будзе зменена сістэма найму на працу

У Беларусі ў бліжэйшы час будзе зменена сістэма найму на працу. Аб гэтым сёння заявіў Аляксандр Лукашэнка, наведваючы ААТ «Керамін».

«Нам, відаць, трэба вярнуць нешта накшталт характарыстак з папярэдняга месца працы, — сказаў Лукашэнка. — Вельмі многія разбясячыліся, прэзідэнт прымусіць выплаціць заробак, а мы будзем курыць або п'янымі хадзіць на працу».

«Мы павінны ў бліжэйшы час упарадкаваць сістэму найму на працу, пераходу з аднаго месца працы на іншае», — дадаў ён.

Гаворачы аб кантрактнай сістэме, Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што на працягу паўгода ўсе павінны перайсці на такую форму працы. «У нас яшчэ шмат людзей працуе без контрактаў.

Няхай прафсаюзы [афіцыйныя, ФПБ] зоймуцца гэтым пытаннем», — сказаў ён.

«Ва ўсім павінен быць парадак. Так робіць ўвесь свет», — адзначыў ён.

Праваабаронцы і незалежныя прафсаюзы крытыкавалі прымусовы перавод работнікаў на кантракты, бо бачылі ў гэтым спосаб палітычнага ціску над людзьмі. Кожны чалавек можа ў кожны момант страціць працоўнае месца, варта яму ў нечым запярэчыць уладам ці адміністрацыі. Зафіксаваны сотні выпадкаў звальнення за ўдзел у палітычнай дзейнасці.

*БелТА*

# І дзе тая вуліца, і дзе той дом

■ **Уладзімір Скрабатун**

*– Прыедзьце, калі ласка, і сфатаграфуйце, як нашыя камунальнікі працуюць у Год Беражлівасці!*– тэлефануе жыхарка дома №15 па вул. Маладзёжнай. *– Дзвярэй у пад'ездзе няма, вокнаў няма, трубы адкрытыя, лічыльнікі адкрытыя. А кажуць – Год Беражлівасці! Неўзабаве зіма.*

Вось і адправіўся аўтар гэтых радкоў па ўказаным адрасе. Здавалася б, што тут складанага, указалі адрас – ідзі і фатаграфуй. Але з першага разу патрэбнага дома не знайшоў, вуліца Маладзёжная заканчвалася домам №9, далей прыватныя гаражы, цяпліцы, гаспадарчыя пабудовы. Агулам кажучы – тупік. Такога дома, як ні шукай, няма, і на даляглядзе не бачна. Запытаць няма каго – вуліца пустая, і ледзьве ўжо не засабіраўся назад.

Зразумела, што для мясцовых жыхароў, паштальёнаў, камунальнікаў не праблема знайсці патрэбны адрас: яны прызвычаіліся, ведаюць. А калі прыязджаеш з іншага канца горада? Бачыш – вуліца скончылася домам №9! І дзе ж той дом?

Заўважыў – ад цотнага боку вуліцы адыходзіць завулак. Пайшоў. Бачу дзіцячы садок, далей 3-павярховы дом, чытаю: «Маладзёжная, 17». Ну, калі ёсць 17-ы, то недзе павінен быць і 15-ы! Але, падкрэсліваю, па логіцы, такіх нумароў (няцотных) тут не павінна быць, таму што цотны бок. Зайшоў у двор аднаго з дамоў, а там – яшчэ цэлы тузін будынкаў бачу. І як даць рады, калі толькі на палове будынкаў ёсць нумар дома і шыльда з назваю вуліцы. На адным доме напісана «Маладзёжная», на другім, побач – «Міра». А іншыя ніяк не пазначаныя. І здагадайся! Можа некаторыя аднасяццы і да Камуністычнай вуліцы?

Нарэшце, пашанцавала – на адным будынку, на якім не было нумара дома, але была прымацаваная шыльда тыпу «пашпарт дома», даведаўся – гэта той дом, які патрэбны.

Каб знайсці нейкі дом у Глыбокім, то, як кажуць у народзе, трэба з'есці жменю жалезнага бобу. Тады дасі рады. Тое і ў мікраёне МКК. Нечакана сярод пяціпавярховікаў з няцотнымі нумарамі паўстае перад вачыма пяціпавярховік з цотным нумарам. Здаецца, часам прыйшоў, знайшоў патрэбны дом, аднак – расчараванне! Гэта – той нумар, але не той дом, бо дапісана побач з нумарам літара «А». Ідзеш далей – той самы нумар, але ўжо – «Б». А дзе той, які без «А» і без «Б». Аказваецца, метраў – праз сто!





Што датычыць тэлефанавання жыхаркі дома па Маладзёжнай, 15, то, сапраўды, бачна – рамонт іхняга дома не скончаны. Заміж вокнаў левага пад'езда – цэлафанавая плёнка, у сярэднім пад'ездзе – шыбаў паловы няма (здымак злева), няма і ўваходных дзвярэй (здымак справа), тратуарная плітка да пад'езда не дакладзеная, не дакладзеная яна і ў самім пад'ездзе.

Усцешвае тое, што вялікай катастрофы тут няма. Узяцца за працу і за два-тры дні можна ліквідаваць недаробкі. Іншая справа – на вуліцы ўжо маразы да - 4 С°, вецер, сцюдзёна. Губляюцца гігакалорыі цяпла, на вытворчасць якога ідзе не таннае паліва.

Спадзёмся, што пасля выхаду гэтага нумара недаробкі на доме па вул. Маладзёжная, 15, будуць ліквідаваныя.

# Нашэсце баброў на Глыбоччыне

■ **Яўген Самсонаў**

Па словах егера Канстанціна Сайкоўскага, цяпер у Залескай паляўнічай дачы Глыбоцкай паляўнічай гаспадаркі налічваецца больш за 200 баброў, што значна вышэй дапушчальнай нормы. Прычым, штогод гэтых вадалюбівых грызуноў становіцца значна больш.

У апошнія гады бабры ператварыліся ў сапраўдную праблему. У пошуках асяроддзя рассялення, яны аблюбавалі меліярацыйныя каналы. З-за плацін, якія будуюць грызуны, у вадаёмах узнімаецца ўзровень вады, парушаецца работа меліярацыйных сістэм. Акрамя таго, падчас сваёй жыццядзейнасці жывёлы наносяць значныя страты лясной і сялянскай гаспадарцы.

*– Спосаб вырашыць праблемную сітуацыю ёсць,* – лічыць Канстанцін,*– неабходна стварыць у Беларусі ўмовы, пры якіх здабыча бабра будзе рэнтабельнай для паляўнічых, што дазволіла б мінімізаваць шкоду, якая прычыняецца бабрамі, захаваўшы пры гэтым іх папуляцыю.*



Прагледзеўшы крыху інфармацыі ў СМІ аб вышэйузгаданай праблеме, з якой на працягу шэрагу апошніх гадоў быццам бы і змагаецца Мінпрыроды, можна прыйсці да высновы, што вынік іх намаганняў нават не нулявы, а з вялікім мінусам. Узгадваецца даўнейшы жарт пра купца, які запальвае сторублёвую купюру, каб знайсці пад сталом медны пятак.



Вынікі працы баброў ва ўрочышчы Беляі, Узрэцкае лясніцтва.

Папуляцыя бабра ўзрастае з геаметрычнай прагрэсіяй – з такой прагрэсіяй узрастае і шкода народнай гаспадарцы. Ён ужо пасяліўся і выдатна сябе адчувае ў межах гарадоў, не кажучы пра вёскі. Спадарыня Валянціна Вайцяховіч, якая жыве ў Глыбокім па вуліцы Ламаносава бліз рэчкі, скардзілася, што на яе зямельным участку з'явілася яміна і колькі яе не засыпаюць зямлёй усе правальваецца як у прорву.

Глыбачане і іншыя, якія летам у гэтым годзе адпачывалі на возеры Акунёва, добра ведаюць наступствы гібелі аднаго (!) бабра. Такі стаяў смурод, што не тое, каб купацца, але і блізка падысці да возера было нельга.

На думку аўтара гэтых радкоў, мы, беларусы, губляем не толькі прадукты бабровай здабычы: шкуры, струмень, тлушч і мяса (мы ж багатыя, закупляем, асабліва струмень, за мяжой, дый за дыфецытную валюту) і маем страты ў народнай гаспадарцы, але рызыкуем нашмат больш. Ды барані Божа, а хто дасць гарантыю, што ад перанасялення баброў яны не могуць захварэць небяспечнай для чалавека хваробай ці быць разносчыкам аналага хваробы тыпу афрыканскай чумы ці іншай інфекцыі!? Улічваючы асяроддзе рассялення найбуйнейшага грызуна, тут недалёка і да нацыянальнай трагедыі.

# За год Беларусь стала выпускаць тэлевізараў амаль у 5 разоў менш

**Пра гэта паведамляе Нацыянальны статыстычны камітэт.**

Па звестках Белстата, выпуск тэлевізараў у сёлетнім кастрычніку склаў толькі 22,7% у параўнанні з кастрычнікам мінулага года. Агулам жа за 10 месяцаў 2013 года тэлевізараў зрабілі толькі 45,9% у параўнанні з такім жа перыядам 2012 года.

Дарэчы, істотна знізілася таксама вытворчасць халадзільнікаў, камбайнаў, грузавых аўтамабіляў.

*Еўрарадыё.*

# Не спальвай сваё жыццё!

З 15 па 30 лістапада ў Глыбоцкім раёне праводзіцца рэспубліканская акцыя «Не спальвай сваё жыццё!», накіраваная на папярэджанне пажараў і гібелі людзей ад іх з-за неасцярожнага абыходжання з агнём пры курэнні. Толькі з пачатку цяперашняга года па гэтай прычыне адбылося 42 пажары, на якіх загінула 5 чалавек. Паважаныя грамадзяне, будзьце ўважлівыя ў пытаннях уласнай бяспекі і праявіце клопат да тых, хто знаходзіцца побач – суседзям, сваякам, знаёмым, бо людзі, якія злоўжываюць спіртным і тыя, што кураць у пасцелі ў стане алкагольнага ап'янення, ставяць пад пагрозу не толькі сябе, але і акружаючых. Магчыма, ваша неабыякавасць выратуе нечае жыццё. Не грэбуйце элементарнымі правіламі бяспекі. Не праяўляйце бяспечнасці і надбайнасці ў абыходжанні з агнём пры курэнні. Беражыце сябе і сваіх блізкіх!

**А.А Андрыеўскі,**
*інспектар ІДПН Глыбоцкага РАНС, капітан унутранай службы.*




# Лепшыя снайперы Глыбоччыны

■ **Яўген Самсонаў**

16 лістапада ў будынку ЦФАПа аспрэчвалі першынство ў асабістым і камандным заліку лепшыя снайперы працоўных калектываў Глыбоцкага раёна.

Каманд было не густа – толькі дзевяць, таму, з-за адсутнасці ў спаборніцтвах чэмпіёнаў мінулых гадоў, узровень майстэрства ва ўсіх удзельнікаў быў амаль аднолькавы.




Каманда аўтапарка № 16: Н. Бахір і У. Пачопка.

Тым не менш самым трапным стралком прызнаны прадстаўнік РАУС Віктар Адамовіч. Саступіўшы 2 ачкі – Ігар Усовіч з Дзвінскай эксперыментальнай базы – заняў 2 месца, а трэцім прызёрам стаў Аляксандр Плыгаўка.

Сярод жанчын першынство – у Наталлі Бахір (А/П №16), другое месца – Марына Аніськова (Ліцэй), Наталля Баран (Дзвінская эксперыментальная база) атрымала бронзавую ўзнагароду.

У камандным заліку: 1-е месца – А/П №16, 2-е месца – РАУС, 3-е месца – Дзвінская эксперыментальная база. Астатнія каманды: Ліцэй, ЦРБ, В/К 13, ЖКГ, Ахова і ККЗ занялі адпаведна з 4 па 9 месцы.

# Праверкі суб'ектаў гаспадарання працягваюцца

У лістападзе 2013 года інспекцыяй дзяржаўнага пажарнага нагляду Глыбоцкага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях завершаны праверкі двух суб'ектаў: будаўнічай пляцоўкі **«Рэканструкцыя МТФ у в. Абруб-Березвецкі Дзяржаўнага прадпрыемства «Азерцы» Глыбоцкага раёна»** (прараб Жырноў А.В.); **Глыбоцкага камунальнага ўнітарнага прадпрыемства бытавога абслугоўвання «Навінка»** (дырэктар Стукан А.Д.).

Будаўнічая пляцоўка **«Рэканструкцыя МТФ у в. Абруб-Беразвецкі Дзяржаўнага прадпрыемства «Азерцы» Глыбоцкага раёна»:**

● пры ўездзе на тэрыторыю будаўнічай пляцоўкі адсутнічае схема з нанесенымі будынкамі, якія ўзводзяцца і часовымі будынкамі і збудаваннямі, уездамі, пажарнымі праездамі, крыніцамі супрацьпажарнага водазабеспячэння, тэхнічнымі сродкамі супрацьпажарнай абароны;

● бытавыя і складскія памяшканні не забяспечаны першаснымі сродкамі пажаратушэння паводле патрабаванняў правіл пажарнай бяспекі;

● на бачных месцах будаўнічай пляцоўкі і ў памяшканнях, дзе захоўваюцца і выкарыстоўваюцца гаручыя рэчывы і матэрыялы, не вывешаныя знакі бяспекі і папераджальныя надпісы пра забарону курэння і інструкцыі пра меры пажарнай бяспекі.

**Глыбоцкага камунальнага ўнітарнага прадпрыемства бытавога абслугоўвання «Навінка»:**

● не забяспечана выкананне комплексу мерапрыемстваў, якія забяспечваюць своечасовую і бяспечную эвакуацыю людзей і матэрыяльных каштоўнасцяў (адміністрацыйны будынак КУП БА і цырульня не абсталяваны аўтаматычнай пажарнай сігналізацыяй);

● у будынках КУП БА планы эвакуацыі людзей і матэрыяльных каштоўнасцяў на выпадак узнікнення пажару не адпавядаюць патрабаванням;

● будынкі і збудаванні КУП БА не забяспечаны першаснымі сродкамі пажаратушэння паводле нормаў неабходнасці.

*Інспекцыя ІДПН Глыбоцкага РАНС.*

# Электрабяспека ў побыце

■ **А.С. Крывёнак,**
*дзяржінспектар Энерганагляду.*

Электрычнасць ужо даўно і трывала ўвайшла ў наша жыццё. Сучасны чалавек нават уявіць сабе не можа сваё жыццё без электрычнай энергіі. Адкрыццё электрычнасці прынесла ў наша паўсядзённае жыццё масу выгодаў і карысных прыбораў. Электрычнасць пранікла ва ўсе сферы жыцця чалавека.

Такое паўсюднае ўжыванне электрычнай энергіі абумоўлена адносна простым ператварэннем яго ў іншыя віды энергіі. Так, з дапамогай разнастайных награвальных элементаў можна атрымаць цеплавую энергію для абагравання памяшканняў. Ці, выкарыстоўваючы электрарухавікі, можна лёгка ператварыць энергію электрычнасці ў механічную энергію.

Аднак, не варта забываць, што за ўяўнай прастатой і бяскрыўднасцю электрычнай энергіі хаваецца вялікая пагроза для жыцця і здароўя чалавека, калі ён забывае пра элементарныя меры засцярогі і бяспечнай эксплуатацыі электрычных сетак і бытавых электрапрыбораў.

Сітуацыя пагаршаецца яшчэ і той акалічнасцю, што электрычны ток немагчыма ўбачыць ці пачуць. Органы пачуццяў чалавека тут становяцца непатрэбнымі, бо выявіць наяўнасць электрычнага току ў праваднiку можна толькі пры наяўнасці адмысловых прыбораў.

Такім чынам, абавязковай умовай выкарыстання электрычнай энергіі павінна быць безумоўнае выкананне элементарных патрабаванняў электрабяспекі. Паводле статыстыкі, прычыны электратраўматызму ў быце не такія ўжо і разнастайныя, не змяняюцца на працягу вось ужо некалькіх дзесяткаў гадоў.

Асноўнымі прычынамі паражэння электрычным токам у хатніх умовах з'яўляюцца:

● парушэнне элементарных нормаў электрабяспекі;

● эксплуатацыя няспраўных электрапрыбораў;

● неасцярожныя і няўважлівыя адносіны да электраўстановак дома і на прысядзібнай гаспадарцы;

● рамонт электраприбораў і электраправодкі асобамі, якія маюць, мякка кажучы, недастатковую кваліфікацыю.

Прывядзём некалькі агульных правілаў, выкананне якіх можа прадухіліць магчымыя непрыемнасці пры эксплуатацыі бытавых электрапрыбораў.

**1.** Вельмі часта прычынай электратраўмаў з'яўляецца парушэнне ізаляцыі элктраправодкі ў даступных для дакранання месцах. Асабліва гэта характэрна для памяшканняў, дзе выканана адкрытая пракладка электраправодкі. Таму нялішнім будзе перыядычны агляд і праверка супраціву ізаляцыі электрапровадаў. Таму пры выяўленні парушэння ізаляцыі неабходна прыняць тэрміновыя меры для яе аднаўлення.

**2.** Пры ўзнікненні, па тых ці іншых прычынах, кароткіх замыканняў і перагрузак у электрычных ланцугах павінны адключацца аўтаматычныя выключальнікі ці «перагарацъ» плаўкія ўстаўкі засцерагальнікаў, усталяваных ва ўводных шчытах жылых дамоў ці кватэр. Для перадухілення ўзгарання электраправодкі токавыя ўстаўкі гэтых апаратаў павінны быць каліброванымі гэта значыць яны павінны спрацоўваць пры токах, якія перавышаюць усталяваныя значэнні.

**3.** Пры эксплуатацыі ўнутрыдамавых электрычных сетак вельмі важна сачыць за спраўнасцю ўсталявальных элементаў, электраправодкі, гэта значыць разетак і выключальнікаў, каб яны не сталі прычынай паражэння электрычным токам.

**4.** Сеткавыя шнуры шматлікіх бытавых прыбораў часта выходзяць з ладу з-за надлому ці абрыву токаправоднай жылы, што можа выклікаць іскрэнне, нагрэў і нават узгаранне провада. Таму вельмі важна сачыць за спраўнасцю ізаляцыі провада і вілкі ўключэння сецявых шнуроў.

**5.** Пры неабходнасці рамонту электрапрыбораў абавязковае папярэдняе адключэнне электрапрыбора ад сеткі. Але ўсё-такі будзе правільным, калі вы даручыце выканаць рамонт кваліфікаванаму спецыялісту.

**6.** Вельмі важна звярнуць увагу на заземленне металічных карпусоў электраўстановак. Гэта абароніць Вас ад паражэння электрычным токам пры парушэнні ізаляцыі і з'яўлення небяспечнай напругі на корпусе электрапрымальніка. Таму электрычныя сеткі ў сучасных дамах і кватэрах выконваюць трохправаднымі – з заземленым абаронным праваднiком.

**7.** Нельга пакідаць электрапрыборы пад напругай без нагляду на доўгі час. Гэтыя простыя правілы гарантуюць нам надзейнасць работы і бяспекі пры эксплуатацыі бытавых электрапрыбораў.



# Пачалося паляванне на зайца

■ **Валерый Катовіч,**
*дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

З наступленнем лістапада адкрылася паляванне на зайца і шматлікія захопленыя паляўнічыя, не марудзячы, накіраваліся на паляванне. Аднак, далёка не ўсе паляюць законна і законнымі спосабамі. Так, 18 лістапада 2013 года супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету сумесна з егерскай службай Пастаўскай РАС РГГА «БТПР на тэрыторыі Пастаўскага раёна затрыманы жыхары г.п. Варапаева, грамадзянін К. і Н., якія каля 2 гадзін ночы ажыццяўлялі незаконнае паляванне з незарэгістраванай паляўнічай стрэльбай, фары, акумулятара, без паляўнічай пуцёўкі і дзяржаўнага квітка на права палявання. Складзены адміністрацыйныя пратаколы за браканьерства, якія накіраваныя ў раённы суд. Шматлікія паляўнічыя пры паляванні на зайца выкарыстоўваюць кулявыя патроны і патроны, зараджаныя карцечай, што забаронена Правіламі палявання, затрымания супрацоўнікамі інспекцыі грамадзяне прыцягваюцца да адказнасці. Вельмі часта паляўнічыя пры пераездзе з аднаго месца палявання ў іншае не зачахляюць і не разраджаюць зброю, што з'яўляецца грубейшым парушэннем Правіл палявання, вінаватыя нясуць адміністрацыйную адказнасць. Толькі за два дні палявання супрацоўнікамі інспекцыі выяўлена 3 грубейшых парушэнні правіл палявання, усе вінаватыя прыцягнуты да адказнасці. У сувязі з адкрыццём палявання на зайца неабходна яшчэ раз нагадаць тэрміны і спосабы законнага палявання.

З 1 кастрычніка па 30 снежня адкрылася асенне – зімовае паляванне стрэльбавым загонам, з засад, з падыходу, у тым ліку з паляўнічымі сабакамі на лася, аленя, кабана, казулю еўрапейскую, з 1 верасня па 31 студзеня дазваляецца паляванне на бабра рачнога, выдру рачную, – стрэльбавым і безружэйным спосабам.

З першай суботы лістапада па апошнюю нядзелю студзеня 2014 года дазваляецца паляванне на зайца-беляка, зайца-русака стрэльбавым спосабам з паляўнічымі сабакамі.

З 1 кастрычніка па 31 студзеня ў светлы час сутак дазваляецца здабыча андатры стрэльбавым спосабам.

З першай суботы лістапада па апошнюю нядзелю студзеня дазваляецца здабыча куніцы лясной, каменнай, тхара лясного, норкі амерыканскай, гарнастая, вавёркі. (У выпадку змены тэрмінаў, спосабаў палявання ўся інфармацыя будзе паведамлена дадаткова)

Супрацоўнікі міжрайінспекцыі пераканаўча просяць паляўнічых уважліва вывучаць і выконваць правілы вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання, каб не стаць мімавольным іх парушальнікам.

Пра ўсе правапарушэнні Вы можаце паведаміць па тэлефонах: 2-86-70 -кругласутачна, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 МТС.






*Марыну Аніськову*

**Віншуем з Днём нараджэння!**



Желаем счастья много-много,
Улыбок радостных букет,
Друзей хороших и весёлых,
Везенья в жизни, долгих лет!
Желаем, чтоб ушли печали,
Чтоб близкие не огорчали,
Чтоб были вёсны средь зимы и лета,
Чтоб было много-много света!
Чтобы преградам всем назло
Жилось, любилось и везло!
Чтоб всё заветное могло свершиться,
Ведь ради этого и стоило родиться!

*Калектыў "ВГ"*

## МНС інфармуе

**на 19.11.2013 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 928;
Гібель людзей – 115, з іх 1 дзіця;
Урон – 3878,9 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 42;
Гібель людзей – 5, з іх дзяцей няма;
Урон – 308.4 млн. руб.

